26385

Панядзелак, 16 лютага 1920 г. Цана—2 маркі.

# БЕЛАРУСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

ІЛЮСТРАВАНАЯ ЧАСОПІСЬ

Год II. друкуецца ў Менску раз у тыдзень. № 4 (26).

## У вялікую часіну.

Мы ў шмат горшых варунках, чымсі іншые народы, вызваліўшыеся с пад Расіі. Для нас гэтая вызваліўшая малые народы да самастойнага жыцьця вайна—можна сказаць—з аднаго боку пачалася запозна, з другога—зарана. Запозна дзеля таго, што дэнацыяналізацыя нашага народу ўжо шмат пасьпела зрабіць сваей шкоднай работы, полёнізуючы заходнюю Беларусь і русыфікуючы ўсходнюю. Зарана—дзеля таго, што пачаўшаеся у 90-ых гадох нацыянальнае адраджэньне яшчэ не пасьпело паправіць тую шкоду, якую прычынілі нам вякі ненормальнага палітычнага жыцьця. Нас вайна захапіла зусім непадгатаваных, няведаючых, што вось рашаецца лёс наш і нашых братоў-суседзяў. Мы апынуліся з голымі рукамі на вялікім сусьветным пажарышчы.

109242

Ужо адзін гэты факт, што мы дзелімся на дзьве, хаця аднальковые па нацыянальнасьці, але розные па рэлігіі часткі—заходнюю каталіцкую і ўсходнюю праваслаўную, аблягчаў нашым ворагам іхнюю работу, разьбіваючы нашае адзінство. Стуль у спалёнізаваных жыхароў заходніх нашых „крэсаў“ вытварылося цягаценьне да Польшчы, а ў зрусыфікаваных жыхароў усходніх нашых „крэсаў“—да Расіі. Другі факт, што вайна ад першага году вялася на нашай зямлі, што разварушыла нашы нівы і сёлы, што выгнала з родных хат мільёны „бежанцаў“, шмат нам зрабіў перашкод у нашым арганізаваньні. Цяжкіе адна за аднэй окупацыі высмактавалі апошніе сілы з абяздоленага ўжо і без таго народу.

Цяпер гадзіньнік гісторыі б‘е вялікую для нас часіну. Прышоў чарод на ўсходняе пытаньне. Бальшавікі запрапанавалі Польшчы мір. Польскіе войскі стаяць на нашай тэрыторыі, і дзеля гэтага Польшча мае першы голас у справе, што зрабіць з Беларусью: ці даць ей магчымасьць жыць і разьвівацца ў яе этнографічных граніцах, ці, рашыўшыся на разьдзел Беларусі, таргавацца з бальшавікамі аб тое, каб толькі захапіць для сябе як найбольш беларускіх абшараў.

Ня хочацца верыць, каб моро пралітай крыві, каб бяздольле мільёнаў семьяў—каб усё гэта зрабілося дарма. Ня хочацца верыць, каб пасьля гэтакіх ахвяр, якіе людзі зложылі праз поўдзесятка гадоў вайны, запанаваў на сьвеце ізноў зьдзек, панявертка народаў, уціск слабага сільным.

Наша адраджэньне ў 90-гадох пачалося пад клічам „загляне сонцо і ў наша ваконцо“. Мы верым, што ўжо хутка разьвеюцца на небе хмары і ў ваконцо нашай многапакутнай Бацькаўшчыны загляне сонцо волі. Мы верым, што тые, хто дужыйшые за нас, уцямяць нашые парываньні да незалежнага жыцьця і—зразумеюць свой уласны інтэрас. Бо калі будзе інакш, дык гэты мір, неабапёрты на справядлівасьці, а на сіле, будзе мірам толькі да часу. Бо раней ці пазьней, а народ будзе дапамінацца сваіх правоў. Бо калі беларускі народ будзе адпіхнуты ад стала, ўвакруг якога сядуць „вольные з вольнымі, роўные з роўнымі“ і будзе прымушаны здаволівацца абгрызкамі, кінутымі яму, галоднаму свабоды,—дык ні адзін сьвядомы беларус не забудзецца гэтай новай крыўды. Інтэлігэнцыя пойдзе ў народ, засыпле народ друкаваным словам, — няхай навет ня будзе ніякай літэратуры, дык жывым словам пачне будзіць уладара з яго доўгага сну, пакуль той не устрахнецца і скажа сваё магутнае: „жыў!“...

Бо мы верым у гістарычную справядлівасьць, і ня думаем аб тым, каб „апошніе былі першымі“, але даб‘емся ў канцы таго, што і апошніе будуць р о ў н ы м і дый в о л ь н ы м і.

Ф. А.

Centr. Biblioteka

# Ганчарство на Беларусі.

Ганчарны промысел самы характэрны для кожнага краю і району. Форма начэньня, яе орнамэнтацыя заслужываець вялікай увагі усіх, хто цікавіцца народным штукарствам.

Ганчарні ёсьць бадай у кожным мястэчку нашага краю. Але спосаб вырабу начэньня, яго выпалу, і глазураваньне палівай самые прымітыўные.

Тым часам начэньне ня толькі служыць для ужытку гаспадынь, а яно зьяўляецца дэкорацыйнай аздобай хаты.

Тэхніка і дэкорацыйнае характво ў нацыянальных стылях яшчэ не даткнулося нашых беларускіх ганчароў. Зроблены былі толькі некаторые пробы з прыватнай ініцыятывы. На выстаўцы ў Слуцку перад вайной п. Юрка Булгак даў формы і орнамэнтацыю для аднаго слуцкага ганчара, і яго начэньне на выстаўцы было пекным куточкам, на якім вока застанаўлівалося з вялікім задаваленьнем. Менскіе мастакі, якіе зьбіраліся ў рэдакцыі „Сахі" і „Лучынкі" далі пекную орнамэнтацыю гаршкоў у беларускім стылю.

Але гэтые рэчы зьвезены немцамі, якім далі іх для выстаўкі ў Вільні.

Вайна у нас зьмяла усе бібліатэкі, усе абразы і колекцыі. Цяпер трэба ўсё пачынаць спачатку. На Украіне ў Палтаве ёсьць школа ганчарства, і вырабы яе ў украінскім стылю дайшлі да высокага артыстычнага развою.

Ў Галіччыне у Калам і была знамянітая школа ганчарства. Колькі маладых людзей з Беларусі вучыліся у Каламыі і ў Маскве ў Строганаўскай школе. Некаторые з іх як Міхалон, Завадзкі з вялікім запалам хацелі працаваць над нашым ганчарствам. Вайна і рэволюцыя іх недзе параскідалі. У Менску іх нажаль цяпер няма. Міхалон навет качаў пісаць пабеларуску кнігу для ганчароў, з новымі спосабамі тэхнікі.

5 гадоў на Беларусі таўчэцца вайна, на гэта нам шанцуе лепш за ўсе краі. Многа трэба зрабіць, у тым краю, гдзе перад вайной нічога не рабілося, а потым 5 гадоў усё бурылося.

Патрэбны музэй народнага штукарства і школы рамеслаў.

Ганчарствам славяцца (ці лепш сказаць славіліся): м. Івье, Віленск. пав., гдзе было каля 60 ганчароў, м. Крэва, Ашмян. пав., м. Чашнікі, Вітэбск. пав., м. Ракаў і Івенец, Менск. пав., там рабілі і кахлі.

Ёсьць старынные фасоны, вельмі пекные, івенецкіх кахляў; цяпер орнамэнтацыя новая пайшла на рыначны стыль. Ганчары ёсьць у Вільні, ў Барысаве, Дзісьне. Ў Навагрудку выбляюцца досіць пекные кахлі, а так сама каля Магілёва, Быхава, Шклова. У Магілёве і у яго аколіцах вырабляецца каменнае начэньне, якое не баіцца вялікага агню М. Горадня, Пінскаго пав., зьяўляецца вялікім цэнтрам ганчарства на Палесьсі, адтуль гаршкі пр вазілі цэлымі вагонамі у Менск на прадажу. Каля м. Цэханаўкі, Бельск. пав., Гродзенск. губ. выбляюць пекные чорные гаршкі, якіе прадаюцца на ўсіх рынках таго району.

**А. Ў.**

*З колекцыі М. Шылы.*



Ганчары пры рабоце.



Ганчарная печ.

---

Просьба да беларусаў: хто мае фотографічную картачку нябошчыка поэта Максіма Багдановіча, няхай пазычыць яе для надрукаваньня у нашай часопісі. Картачка будзе зьвернена назад уласьніку з вялікай удзячнасьцю.

**Рэдакцыя.**

---

**ПАПРАЎКА.**

Ў № 2 „Б. Ж." у апавяданьні „Хаткі над возерам" здарылася абмылка; надрукована: „Дрэво ў $1^1/_2$ сажні таўшчыні"—трэба чытаць „$1^1/_2$ арш.".

Ганчары. (Менск. пав., Івянецкай вол.).





## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ.

Лёг на небе шлях млечны, шлях зьлепляны
з зорак.
Паясом-серабром без канца і пачатку.
І цікуе, як месяц з узгорка на ўзгорак
Пад ім лазіць, мяняючы што-ноч апратку.

І галубіць шлях бледны зямлю яснавіцай,
Сочыць вочак мільёнамі долю людзкую;
То сьвятлей, то мглісьцей зацьвітае, мігціцца,
Сее скрозь ні то сон, ні то яву такую.

———

Людзі кажуць, што птушкам, зблудзіўшым
у ночы
Млечны шлях служыць сьцежкай, пуцінай
у вырай.
Яшчэ кажуць, што гэта сьлязіны сірочы
Замяніліся ў зоркі і сьвецяць там шчыра.

**Янка Купала.**

---

Расьціслаў Салоўкін

# Хаткі над возерам*).

Калі лес там, дык лес—
Можна тыдзень дыбаць.

Якуб Колас.

Ішоў год за годам. Падрасло другое пакаленьне, зьявіліся прадстаўнікі трэйцяга, а з надворнага сьвету ня прыходзіло ніякіх вестак.

Толькі ў канцы восемдзесятых гадоў на вёсачку набрыў нейкі чалавек. Хто ён, адкуль прыйшоў і куды пайшоў, пагасьціўшы ў весачцы тры дні,—сяляне ня ведаюць. Гэты падарожны расказаў жыхаром „Хатак“ пра турэцкую вайну, пра вызваленьне сялян, пра забойство Імпэратара Аляксандра II, пра тую глухую політычную барацьбу і рэакцыю, якімі азначаны восемдзесятые гады, ён паведаміў іх так сама і пра тое, што людзі дадумаліся да будоўлі паравых машынаў і чыгунак,—адным словам, пра ўсе тые важнейшые падзеі, якіе адбыліся ў Расіі за 30 гадоў...

Гэтые ведамасьці, што дайшлі да „Хатак“ з інтэлігэнтнае, мусі, крыніцы, былі аднымі толькі за усе 50 з лішкаю гадоў істнаваньня вёсачкі.

Зразумелая рэч, скольки навінаў мы расказалі сялянам!

Нашае зьяўленьне было для іх поўнаю неспадзяванкаю і зусім натуральна, што хлапчак—купальшчык, нічога ня ведаўшы пра істнаваньне надворнага сьвету, гэтак пасьпешна ўцякаў ад нас.

Хаця-ж і старшые пакаленьні аднесьліся да нас не саўсім спагадна, думаючы, што мы хочам адабраць ад іх пад чыгунку наседжаные гнёзды й толькі пасьля таго, як мы відочна даказалі з аднаго боку, што „Хаткі над возерам“ іх неадборная ўласнасьць, праз земскую даўнасьць, а з другога боку, што й немагчыма пракладаць чыгунку праз катлаван, заняты вёсачкаю, таму што на гэта трэба страшэнна шмат земляной работы,—сяляне супакоіліся й началі адносіцца да нас болей спагадна.

А калі мы, даведаўшыся, што за апошніе гады „Хаткі“ адчуваюць гострую патрэбу жалеза і сталі, падарылі ім з нашага запасу, некалькі сякераў і рыдлёвак, а так сама сказалі нашаму кавалю выкаваць пяць лемяшоў, сяляне былі саўсім падкуплены і радасна запрапанавалі нам сваю гасьцінасьць.

Ўнутранасьць хаткаў, збудованых на адзін плян, складалася з двох пакойчыкаў—чыстага і кухні і зьдзіўляла сваею орыгінальнаю раскошаю.

За паўсталецьця было забіто і налоўлено гэтулькі розных зьвяроў, што скуры іх пакрывалі сабою немаль што ўсе падлогі і сьцены чыстага пакойчыка, дзякуючы чаму здавалося, што ўходзіш ў нейкую вялізарную шубу.

Калі мы заўважылі ўласьніку хаты, што гэткая раскоша ня вельмі гігіенічна, ён адказаў,

*) Гл. Б. Ж. №№ 2 (24), 3 (25).

што скуры, незалежна ад пары году, штотыдзень выветраваюцца й выбіваюцца. Дык сапраўды чыстата была скрозь ідэяльная.

Ў кутку пакойчыка віселі два абразы: Збавіцеля і Божай Маці, больш менш удачные копіі тутэйшай работы, з аўтэнтыкаў, што віселі ў хаце старшага ў родзе выпаўняўшага ўсе рэлігійные трэбы пасяленцаў. Ён-жа іх судзьдзя й настаўнік. Аўторытэт яго—поўны. Рэлігія хаткаўцаў блізкая да праваслаўнай, але без царкоўных звычаяў. Высока стаіць культ абразоў. Мова ўва ўсіх беларуская старадаўняя.

Жылі хаткаўцы дружна і ціха, пабратэрску,—за ўвесь час не памяталі ні аднэй дужай сваркі. Ды йначай і быць не магло: аб'ядналые агульнаю працаю й барацьбой з прыродаю й дзікімі жывёламі,—яны і па крыві ўсе былі братамі.

Ежа ў іх найлепшая: мясо, дзічына, рыба, малочные прадукты; есьць навет квас, які мае ў сабе алькоголь.

Сямейные правы—сьвятые. Ня было здарэньняў нарушэньня моралі.

Эпідэмічных занядужаньняў так сама ня бывала.

На могільніку, якім зьяўляецца адзін з садочкаў, акаляючых возеро, ёсьць сем магілак; на трох з іх пахованы памёршые прадстаўнікі першага пакаленьня.

Пагасьцілі мы ў „Хатках над возерам“ пяць дзён, адпачылі ад цяжкое працы і пайшлі далей, спачатку ў бесканечнае моро Т—скай пушчы, а пасьля ў яшчэ болей бурнае й небясьпечнае моро чалавечага жыцьця, нясучы з сабою самые сьветлые ўспаміны аб гэтай выняткавай комуне, аб гэтым царсьцьве спакою, працы й патрыярхальных звычаяў.

Прайшло сем гадоў. Жыцьцё кідало мяне з канца Расіі ў канец і вось ў 1915 годзе зноў шпурганула ў знаёмые месцы.

Па вайсковаму даручэньню я павінен быў абсьледаваць становішчо выведаных трыбаў ў Тураўскім лясным масыве.

Даручаньне я прыняў з тым большаю ахвотаю, бо выпадкова ў мяне захаваліся ўсе матарялы гэтых выведаў.

Я, ўходзіў ў лес з трымцячаю надзеяю ўбачыць ранейшые малюнкі. Але-ж—не!.. Год вайны ўжо ўскурыў палажыць сваю пячатку і на гэтую, здавалося, непераможную груваду.

Ледзьве знайшоўшы сваю трыбу сярод масы іншых, зробленых „із военных соображеній“ і ледзьве прабіраючыся паміж бярвеньнямі, бяз толку і бяз літасьці ссечаных дрэваў, я праконаваўся, што жорсткая воля чалавечая разбурыла тут ня толькі флёру, але й фауну: па ўсёй пушчы мы ня сустрэлі ніводнае дзікае жывёлы, калі ня лічыць сотні тых зьвяроў, якіе нясьціхаючы стукалі сякерамі па лесе.

Але найбольшы сум чакаў мяне каля „Хатак над возерам“.

Вёсачка была саўсім пустая. Поле і маляўнічые сьцежачкі зарасьлі дзікаю травою і зьліліся з акаляючаю мясцовасьцю. Хаткі і хлеўчыкі пакрывіліся, а некаторые з іх разваліліся.

Ўнутранасьць хатак была яшчэ сумнейшая й цямнейшая. Ўсюды сьмяцьцё і разбурэньне. Па ўсім было відно, што тут даўно ня было гаспадарскае рукі.

Доўга мы шукалі адгадкі гэтае сумнае мэтаморфозы і толькі могільнік з яго дваццаць пяцьма магіламі, замест ранейшых сямёх даў нам некаторае тлумачэньне.

Мусі, эпідэмія забрала 18 чалавек, а рэшта, спалоханые сьмерцю блізкіх разбрыліся па сьвеце.

Таму што няшчасьце, як відаць, адбылося зараз пасьля нашай гасьціны ў „Хатках“, дык вельмі магчыма, што тые, хто застаўся жывы, лічаць нас вінавайцамі ўсіх свіх бедаў і праклінаюць ня толькі нас, але й культуру, насіцелямі й пасланцамі якое мы былі.

З цяжкім пачуцьцём мы працягвалі сваю дарогу; гэткае самае пачуцьцё я вынес і ў жыцьці і цяпер ў мінюты няўдачаў і гора, спамінаючы хаткаўскае няшчасьце я часта задумваюся над пытаньнем ці сапраўды мы першые выведчыкі **саўсім** невінаваты ў іх? Ці ня вісіць над намі **заслужанае** праклёнства? То-ж працерабіўшы першую трыбу ў Т—скай пушчы, мы ня толькі адчынілі жыхаром „Хатак“ дарогу да надворнага сьвету і яго няпэўнае культуры, але гэтым самым разбурылі іх звычаі, далі магчымасьць азяліцца атрутаю гораду і занесьці заразу эпідэміяў ў гэты прыгожы, хаця і дзікі, куточак.

11/I 1920. Менск.

З расійск. мовы пералажыў.

*Краўцоў Макар.*



**Якуб Колас (Тарас Гушча).**

Праўдзівае імя яго—Константын Міцкевіч. Ён пачаў працаваць на ніве беларускай з 1905 г. У першай беларускай легальнай часопісі „Наша Доля“ пачалі друкавацца яго вершы.

Да гэтага часу выдрукавано зборнікам шмат твораў прозы і поэзіі Коласа: „Песьні жальбы“, „Родные зьявы“, „Тоўстае палено“, „Нёманаў дар“, „Прапаў чалавек“, „Другое чытаньне (хрэстоматыя), „Сцэнічные творы“, „Сымон музыка“ (3 часьці, яшчэ не закончана). У „Вольнай Беларусі“ друкаваліся вялікіе адрыўкі апав. вершам „Новая Зямля“ і цэлы цыкль орыгінальных, цікавых баек прозаю „Казкі жыцьця“. Апрача таго, ў Коласа ёсьць многа ненадрукованых твораў.

Творчасьць Коласа вызначаецца чыста народным духам. Як у яго вершах, так-сама і ў прозе красуюцца, як жывые, беларуская прырода і беларускі народ. Абразы яго поэзіі над'звычайна пекные і далікатные. Сум яго—гэта сьлёзы нашага народу, якіе перарабляюцца ў пэрлы вечнага харастра. Вясёлы жанр яго дае рэльефные малюнкі праўдзівага быту нашых ратаёў.

Я. Колас зусім справядліва лічыцца нашым першым нацыянальным поэтам.

Апошніе весткі ад Коласа былі ў 1918 г. з Курскай губэрні, куды ён быў закінены вайною і рэволюцыяй і гдзе ў апошні час меў пасаду настаўніка ў пачатковай школе.

# Лясун.

I.

— І трэба-ж было радзіцца яму гэтакім!—гаравала-бядавала Халімоніха—з самых малых дзён ён нейкі дзікі. Дай яму есьці—добра, а калі не, дык сам прасіць ня стане. Як ён жыве, дык адзін Бог сьвяты ведае. Адрокся і маткі роднай і хаты сваёй, і бадзяецца па дзікіх лясох. Божухна, Божухна! на што было радзіцца яму гэтакім?

— Адна сьвятая воля,—адказала ёй суседка Тэкля—ты-ж да розных знахароў цягалася з ім, розным лекаром апошнюю залатоўку аддавала—нічога не шкадавала і віна не твая. Што зробіш супраціў Бога? Мабыць так трэба!

— Божухна! Божухна! А ці-ж я, родная маці яго, магу глядзець як ён, двадцацьгадовы дзяцюк, ходзіць у аднэй зрэбнай кашулі, босы, бяз шапкі і ўлетку і ўзімку? Ці-ж мне гэта лёгка? А хоць ты яго рэж, а ён усе вопраткі з сябе скідае, апрача кашулі. Як я ня прывыкла, а ўсё-ж матчыно сэрцо баліць, як угледзіш, што дзеці бягуць за ім і крычаць: „дурны!“ „Лясун!“ і крыўдзяць яго і бьюць. Ад мяне і то ўцякае. На зімку толькі прыходзіць да хаты, а ўсенькае лето ў лесе жывець. Недармо яго ўсе „лясуном“ празвалі.

— Адна на гэта Боская воля!—кажа суседка Тэкля—а ведаеш і нябошчык твой Халімон, бацька яго, быў нейкі дзіўны і п'яніца страшэнны!

Гэдак гутарыла часта ўдава Халімоніха з сваімі суседкамі, жалючыся на сваё горо, што Бог даў ей дурнога сына.

II.

Лясун хаваўся ад людзей у панскім вялікім лесе і жыў там.

Гэта быў высокі малады дзяцюк з доўгімі, ўскалмачанымі валасамі, якіх ня часалі і ня стрыглі, бадай, ад самага раджэньня.

Ён быў сухі, бляды, з глыбока-ўпалымі сінімі, бліскучымі вачыма, якіе пазіралі пастаянна ў адзін пункт з нейкай затаённай натхнёнасьцю. Яго дурная усьмешка наводзіла жудасьць, нібы усьмешка голага чэрапа.

Даўгая, аж да пят, кашуля яго мела колер рудаўкі з прымешкай зялёных траў. Яна была цьвёрдая, як бляшаная, і сядзела на ім, як доўгі мех.

У самай гушчы сасновага бору сядзіць лясун на гніляку. У гэтае месцо праменьні сонца прабрацца ня могуць і адвечные цені сярод дня вільготнымі пластамі цiскаюць мох. Вялікая выварацня з карчом фантастычнай формы, аблепленым зямлёй, выглядае гняздом паўночнай ведзьмы.

— Гм-м-м—думае лясун і бармоча: чаму так? Чаму?

Яму ўсё хочацца цяжар нейкі сьпіхнуць з сваіх мазгоў; цяжар, які глушыць яго розум. Ён усё стараецца прыпомніць нешта такое, аб чым ён забыўся. Жадае разварушыць і асьвятляць сьляпые зьявішчы сваей цёмнай душы. Але як не стараецца—нічога не памагае. Бязьмежная цемра абхапіла яго думкі. Душа яго, як скрыпка, што вісіць на дрэве. Ветрык часам кране яе і струны гудуць. Лунаюць у паветры згукі, якіе без разьмеру і формы расплываюцца ў абшары...

— Здаецца... Хацеў... Ой!—мармоча ён ціха.

Азіраецца па бакох і мука вызначаецца на яго твару. Мука гэтая зьліваецца з адвечнай усьмешкай сфінкса і не разабраць, ці ён хоча плакаць, ці сьмяяцца.

III.

Таемна ўвакол гудзіць бор, цёмны, высокі і жудасны... Здаецца, што гэта вялікая працэсія казачных мніхаў застыгла на месцы ў шопатнай малітве...

Бор нешта хавае ад людзей. У ім, як зачарованые царэўны, дрэмлюць да пары да часу сказы і міфы сівой мінуўшчыны.

Як прыемна, як люба ты сэрцу нашаму, таемнасьць! Кожны з нас знаходзіць у цішыне тваей цэлые скарбніцы і цешыцца гэтымі палуценямі, палудумкамі да магілы...

Лясун—палу-чалавек, палу-зьвер, паўдрэво. Але ўсё на зямлі жыве сваім асобным жыцьцём, маючы сваіх другаў і недругаў. Кожная істота інстынктыўна блізіцца да першых і змагаецца з другімі.

Лясун мае сваімі недругамі людзей. Ён заўсягды хаваецца ад іх далёка-далёка, глыбока-глыбока у лесе... Болей усяго жыве ў яго цёмнай душы страх—страх людзкой блізасьці. Людзі пужаюць яго сваім відам, сваей гутаркай і будзяць нешта няпрыемнае і балючае ва ўсіх нетрах яго душы.

Час-ад-часу бліскучые вочы яго мяняюць свой колер. Рукі сьмешна растапыраваюцца. Пастаянная усьмешка болей вызначаецца. Стогн—візг рвецца з яго грудзей.

Гэта знак вялікай уздаволеннасьці.

Ён ні аб чым ня дбае, не бядуе. Холаду, голаду мала баіцца. Брагамі яго—сосны высокіе. Заступніцамі—цені вільготные. Маці яго думак—нямая цішыня.

Цішыня...

Ці не ўсе мы, ўся зямля, ўсе планэты—дзеці тваe?—Ўсё ад цябе прыплывае ў прамяністые, пявучые палацы жыцьця і зноў уліваецца ў тваё моро. Ты—муза гэніяў. Ты родзіш містэрыю натхнёнай творчасьці. Ты—пачатак усіх пачаткаў...

IV.

Калі на лясуна нападаюць пастухі вясковые і бьюць яго і дражьняць, дык ён маўчыць. Пазірае ў другі бок, як-бы гэта не яго тычыцца. Але пры гэтым у таемніцы яго душы ўсё расьце злосьць да людзей... Яна напаўняе яго грудзі праз меру і душыць яго. Цело гарыць, кулакі самі сьцісківаюцца і ў вачох палае агонь помсты...

Помста жыве і ў зьвяроў, як натуральны інстынкт. Моцна жыве яна ў сэрцы людзкім. Адзін з вялікіх прарокаў зямлі вырэзаў на скрыжалях вечнасьці: „Зуб—за зуб, воко—за воко“.

— Ня гэдак! ня гэдак!—мармоча лясун і шыпіць, як вужака. Вось, здаецца, ён увесь загарыцца полымем ад вялікай помсты, але хутка пачуцьце гэтае слабееть у яго мазгох і расплываецца. Як-бы хто кідае камень у гладзь рэчкі: люстра вады варушыцца, зыбіцца, хвалі кругамі пускаюцца, але патроху прыходзяць да ранейшай супакойнасьці.

Лясун зноў камянееть. Калі часам чуе ў нутры вялікі голад, тады ён неахвотна ідзець у вёску да маткі. Халімоніха, нічога не дапытаваючыся, дае яму есьці. Есьць ён вельмі многа, пасьля чаго зноў уходзіць у лес.

V.

Старые людзі яго менеі дакучаюць, баючыся грэху:

— За такіх Бог карае—кажуць яны—хай сабе лясун ідзець у бор на месцо сваё, калі Айцу Сьвятому гэдак патрэбна!

А душа яго дрэмлець у акамянеласьці і неяснасьці сваей. Толькі часам, як чужые, далятаюць да яго адрыўкі сьвядомасьці. Яны бьюцца ў яго душу з мазгоў, як запозьненые падарожнікі ў шыбіну. Як пробы фарбаў на палітры, яны малююць яму нявідочные карціны, бясксшталтные, пакалечаные.

Хаця сон яго чуткі, як сон белкі на галіне, але часам сьняцца яму розные сны: тое, што ён бачыць на яве, зьяўляецца яму ўвасьне у розных формах.—Дрэвы пераходзяць з аднаго месца на другое. Нешта гаворацъ яму. Людзі стаяць нямые, як дрэвы,—цэлы лес людзей.

Ён прачыхаецца. Неяснасьць думак яснеець. Ён пачынае разумець, што ня гэтак трэба жыць, што нехта трымае яго тут у лапах сваіх, што пануе над ім нейкая сіла, агромністая, цёмная, жудасная, як гэты бор...

— Дзеля чаго я ўцёк ад людзей? за што яны мяне крыўдзяць? І пачуцьце вялікай мукі рвець яго грудзі, разьліваецца гарачым волавам па жылах.

Ён ускаківае з халоднага моху і пускаецца раптам бегчы у вёску. Чапляецца аб карчы і дрэвы у ночнай цемры, раніць сваё цело аб гальлё і сярод такога дзікага імпэту раптам затрымліваецца:

— Куды? Чаго?

Ён забываецца. Вялікі хаос атуляе зноў яго душу і ён вяртаецца ў лес. Яшчэ глыбей забіраецца, яшчэ бліжэй туліцца да карча...

VI.

У лесе цёмна, гэтак густа-цёмна, ажна, вдаецца, можна рукамі мацаць гэтые цёмные, халаднаватые хвалі.

У лесе ціха, гэдак глуха-ціха, як у магіле. Душыць гэтая ціш і дыханьне затрымлівае...

У гушчары заплакала сава. Водгаласкі разыходзяцца па бакох і вяртаюцца назад, дробяцца ў далі, нібы град аб шыбіны.

Зноў ціха.

Дрэво аб дрэво скрыпіць: дзьве сосны цалуюцца ў салодкай істомнасьці...

Лясун чуе, як нешта абцугамі сьцісківае яго грудзі. Сэрцо моцна стучыць. Кроў яго пераліваецца ў жылах. Кружыцца галава. Ён, зьдзіўлены, прыслухоўваецца да голасу сваей крыві. Яго ўсяго трасе. Ад гэтакай неспадзеўкі, на яго нападае страх. Страх напаўняе ўсю яго душу. Здаецца яму, што зараз прыбягуць людзі і пачнуць яго біць.

А з глыбокіх шчэлін цемры страх паўзе шмат-галовым зьмеям, вялікім, невядомым... Голас яго—трэск паломанага бурай крыжа. Сьмех яго—стук магільных касьцей. Песьня яго—сьвіст вострага сталю над горлам. Ты яго чуеш і ня чуеш, бачыш і ня бачыш. Толькі валасы, як драцяньне, дуба становяцца. Кроў у жылах стыне і сэрцо замірае.

Скуль-жа бярэцца гэты страх? Дзе яго крыніца?—Ён родзіцца ў сэрцы чалавека. Ён там і паміраe.

І не ўцячэш ад яго, як не ўцяцеш ад сваей цені. І ня вырвацца чалавеку з яго ледзяных пальцаў, бо ён нясе гэты страх заўсёды з сабою, як сваю сьмерць...

Лясуна страх выводзіць з роўнай вагі і ясные думкі, як сьпелые яблыкі з яблыні, сыпяцца з яго мазгоў:

— Чаму я нешта тут? Чаму я ня ў вёсцы? Хто я такі?

Пры гэтым страх яго пакідае.

— Хто я такі? — пытаецца ён у другі раз. Гэта яго страшэнна цікавіць. Але мазгі яго зноў атуляе туман няпрытомнасьці.

— Я-ж дрэво! Я-ж брат во гэтай сасны! — адказывае ён сам сабе, паказаваючы пальцам на самую блізкую сасну. Ён падскаківае да дрэва і з дзікай радасьцю, з бязьмежным закаханьнем абыймае шурпаты пень...

— Гы-гы-гы!—рагоча ён ад нейкага надзвычайнага дзікага шчасьця. Тварам і ўсім целам моцна туліцца да пня і ажна выець, як зьвер, ад таго раптоўнага агню, які нібы расплаўлены мэтал пранік у яго косьці... Кроў гарыць... Галава кружыцца... Нешта колець у мазгі і вострым дротам пранікае пазванкі да самага нізу... Ад вялікай асалоды ён аслаблены адпадае ад дрэва. Ён ляжыць на халодным жорсткім маху як няжывы...

*(Канец будзе).*

**З. Бядуля.**

# У самоце.

Я пайшоў у шчыр-бор, я пайшоў ад людзей,
Каб ня слухаць хвалы аб каханай маей,
Каб для сэрца знайсьці адпачын супакой
Сярод пушчы нямой, сярод пушчы глухой,
Каб забыцца ў начы, ў цішыне і цяні
Аб дзявочай красе, аб сардэчнай тугі.
Ня хачу я далей неўзаемна кахаць,
Васільковых вачэй не хачу цалаваць.

. . . . . . . . . . . . .

Я пайшоў у шчыр бор гаіць раны душы
Сярод месячных чар, сярод ночнай цішы.
Наумысьне шчыр-бор мне аб ёй гаманіў.
Аб ёй мшалы курган казкі дзіўные сьніў.
Сярод пушчы нямой, сярод пушчы глухой
Дзьве сасонкі ў цішы гаварылі аб ёй.
І туліліся бліжэй там адна да аднэй
І зайздросьціў я ім. Ліліс сьлёзы з вачэй...
Вецярок, як анёл, мне у твар цалаваў,
Аб дзявочай красе мне лясун расьпяваў.
Мне чало казытаў залаты матылёк.
І гудзеў і бурліў у нізе ручаёк.
І шуршаў вецярок каля жорсткага пня...
Не забуду яе... Буду марыць да дня...

. . . . . . . . . . . . .

Не забуду яе...—не магу я забыць,
Бо цар-месяц пачаў цёмны бор залаціць,
Бо на золак пяюць усе птушкі ў бары,
Бо пяе ўся зямля ад зары да зары:
Аб любові пяюць. Маё сэрцо баліць.
Я пайду утаплюсь. Не магу болей жыць.

. . . . . . . . . . . . .

Ліюць сьлёзы са мной і ліліеі ў расе,
Гаснуць зоркі з тугі у нябёснай красе.
І сьвятлееть шчыр-бор, нікнуць цені жуды.
Ціха песьціць чало матылёк залаты.
Ўсе шкадуюць мяне ў маім горы бядзе,
Толькі ты, толькі ты не шкадуеш мяне.

*Пасадзец. 1919 г.*

**Ясакар.**

# Беларуская кроніка.

**Проф. Іваноўскі ў Начальніка Польскай дзяржавы.**

Ў бытнасьць Начальніка Польскай Дзяржавы Я. Пілсудскага ў Вільне гутарыў з ім адзін з відных дзеячоў беларускага руху проф. Іваноўскі, які нядаўна вярнуўся з савецкай Расіі.

П. Іваноўскі меў доўгую гутарку з п. Пілсудскім аб беларускім пытаньні.

**Беларускае пытаньне на чарзе.**

У зьвязку з новай сытуацыяй, якая стварылася на ўсходзе Эўропы, беларускае пытаньне становіцца на чаргу дня: Ўся польская і заграгічная прэса ўдзяляюць шмат увагі беларускай справе.

**Беларуская армія.**

Формаваньне беларускага войска ў хуткім часе пойдзе болей жывым тэмпам. У найбліжэйшые тыдні пачнецца формаваньне двох батальёнаў,

**Інтэрнаваньне (?) А. Луцкевіча.**

Паводлуг вестак беларускага бюро прэсы, старшыня рады народных міністраў Бел. Нар. Рэспублікі Антон Луцкевіч інтэрнаваны ў Варшаве; яму адмоўлено ў візе пашпарту, ня гледзячы на тое, што пашпарт яго візірованы ўсімі загранічнымі консульствамі. А. Луцкевіч хацеў выехаць у Парыж у справах, якіе датычуцца Беларусі. Ў візе было адмоўлено пасьля звароту з Парыжу польскага міністра загранічных спраў Патэка.

**Беларуская дэлегацыя ў папскага нунцыя.**

У папскага нунцыя Ратты, які быў нейкі час у Вільні была дэлегацыя беларусаў-каталікоў з кс. Станкевічам на чале. Дэлегацыя зрабіла нунцыю даклад аб палажэньні каталіцкіх касьцёлаў на Беларусі, аб жыцьці і патрэбах беларусаў-каталікоў.

Нунцый абяцаўся аб усіх патрэбах беларусаў цаведаміць папу.

**Беларускіе атрады ў Эстоніі.**

У Эстоніі цяпер знаходзіцца беларускі атрад з 4000 чалавек. Ёсьць атрады кавалерыіі і артылерыі. Беларускімі войскамі каманду е гэнэрал Балаховіч.

**Беларускіе нацыянальные камітэты.**

З розных мясцовасьцяў Віленшчыны і Меншчыны паведамляюць аб закладзеных там беларускіх нацыянальных камітэтах і школьных радах.

# Што чуваць у палітыцы?

Цэнтрам увагі ў палітычным сьвеце служыць **міравая пропазыцыя бальшавікоў,** зробленая Польшчы. На гэту пропазыцыю ўжо адказано Чычэрыну. Варшаўскіе кругі разважаюць пропазыцыю кожны пасобна. Проці міравых перагавораў эн-дэкі. Амаль усе другіе палітычные групы за тое, каб перагаворы пачаліся. Соцыялісты вымагаюць адчыненьня перагавораў, пагражаючы ўплывам организованых рабочых на урад. Апошні цяпер разам з соймавай камісіяй разглядае умовы міравых перагавораў і на гэтым тыдні будзе дадзены адказ. Аб умовах, пакуль што, нічога невядома. Міністар загранічных спраў Патэк заявіў, што асновай міру будзе **забясьпека праў і незалежнасьці народаў б. Расіі.** Як у Польшчы гэта разумеюць трудна сказаць. Вядома, што да Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі адносяцца, як да самастойных дзяржаваў. Лёс рэшты невыяўлены. Ці згодзіцца Польшча, а таксама і бальшавікі на **незалежнасьць Беларусі, Літвы і Украіны** невядома. Украінцы пачалі энэргічную кампанію і вымагаюць, каб яны былі допушчаны на маючую быць конфэрэнцыю, і каб была прызнана іх незалежнасьць. Што тычыцца **Беларусі,** дык ей цяпер удзяляюць шмат увагі ва ўсіх кругох Варшавы. Які будзе яе лёс, цяпер сказаць трудна. Апошнее слово, трэба спадзявацца, будзе сказано самім беларускім народам. прадстаўнікі якога, ня гледзячы на усе труднасьці, прымуць учасьце ў будучай міравой конфэрэнцыі.

Другім важным палітычным фактам трэба лічыць **здарэньні ў Нямеччыне,** да якой Антанта зьвярнулася з нотай, каторая вымагае выдачы вінавайцаў вайны. Ўвесь нямецкі народ адмаўляецца ад гэтага. Ўрад у зьвязку з гэтым гатоў выйсьці ў адстаўку і пакінуць месцо левым соцыялістам (незалежным). Адначасьна ў Нямеччыне павялічаваецца монархічны рух. Многіе думаюць, што грамадзкая вайна ў Нямеччыне нямінуча. Ёсьць мажлівасьць узбройнага конфлікту паміж Антантай і Нямеччынай. Таксама Голяндыя не выдае Антанце Вільгэльма.

Досіць цікавы **новы курс політыкі Антанты** у адносінах да бальшавікоў. З прамовы французскага старшыні міністраў відаць, што Антанта ня мае на думцы пайсьці проці бальшавіцкага ўраду. Рада паслоў Антанты, якая замяніла Вышэйшую раду, пастанавіла болей не дапамагаць дзяржавам, ваюючым з бальшавікамі.

**Перагаворы з бальшавікамі** стаяць на чарзе дня. Англія вядзе далей перагаворы з Літвінавым, пакуль што аб палонных. Але ёсьць ужо весткі, што паміж Англіяй і Расіяй хутка пачнуцца палітычные перагаворы ў Штокгольме. Румынія так сама пачынае перагаворы з бальшавікамі. Латвія і Украіна вядуць з імі сакрэтные перагаворы. Японія вядзе з імі нерагаворы ў Харбіне. Эстонія ўжо ратыфікавала мір з бальшавікамі. Такім чынам факт **прызнаньня бальшавікоў** трэба лічыць праўдзівым. Дзеля гэтага і робяцца далейшые крокі, якіе выклікаты прызнаньнем, у тым ліку **адмена блёкады** якая пачне хутка даваць свае рэзультаты. Ў порты балтыцкага мора ўжо пачалі прыбываць тавары з захаду.

Прызнаньне бальшавікоў тлумачыцца фактам **разгрому Дэнікіна і Колчака,** якіе зусім разьбіты і выгнаны—першы з Украіны другі—з Сібіры. Адэса і Ўладывасток—у руках бальшавікоў.

# Менск.

**Адміністрацыйнае жыцьцё.**

Р. Тарчынскі назначаны паліцэйскім інспэктарам менскага округу.

Старшыня менскага акружнага суду К. Пятрусевіч маніцца пакінуць сваю пасаду.

**Грамадзянскае жыцьцё.**

Мястовая дума ў Менску да гэтага часу ня можа быць склікана. Прычына—нязгода паміж польскімі і жыдоўскімі прадстаўнікамі.

**Харчы.**

Харчовае становішчо места кепскае. Рэчы першай патрэбы даражэюць з кожным днём. Многіе прадукты для сярэдняга абывателя зусім недаступны. З прычын дарагоўлі дроў многіе сядзяць ў няпаленых кватэрах.

Харчовы аддзел пры магістраце да гэтага часу не нарыхтаваў прадажы харчоў насяленьню. Гэта тлумачыцца недастачай грошай.

**Эпідэмія.**

З прычын голаду, безрабоціцы і антысанітарнасьці, ў горадзе павялічваюцца хворасьці. Да тыфусу, гішпанкі дабавілася цяпер эпідэмія воспы. Ад апошняй гэтымі днямі памёр адвакат Шабуня, сваяк старшыні міністраў Б. Н. Р. А. Луцкевіча.

**Крымінальнасьць.**

Крымінальнасьць у Менску ня спыняецца, Гэтымі днямі кінулі бомбу у начальніка 1-га паліц. цыркулу Снарскага.

Крымінальная паліцыя выведала некалькі зладзейскіх банд.

061656




# РЭСТАРАН-СТАЛОЎКА

*(Захараўская 73)*

**адчынены штадзенна ад 9 гадзіны раніцай да 11 увечары**

СЬНЕДАНЬНІ, АБЕДЫ, ВЯЧЭРЫ і МОЦНЫЕ ТРУНКІ.

— **ЦЭНЫ ДАСТУПНЫЕ.** —

ХАЛОДНЫЕ ЗАКУСКІ a la bar.

З пашанай **І. Мусял.**

---

# Старэйшая вадаправодная электрычная майстэрня Д. І. Эйнгэля.

*Валоская (Крашчэнская) 6, кв. 1.*

аднавіла свае чыннасьці па уладжаньню вадаправодаў, каналізацыяў, артэзыянскіх студняў і электрычнага асьвятленьня.

ПРЫЁМ МЕДНА-КАЦЕЛЬНЫХ РАБОТ.

**Фірма істнуе з 1820 г.**

---

## Беларускі рэстаран „СТЭЛЬЛЯ“ быўш. „Т-ва афіцэраў“

**(вул. Міцкевіча, 83, процiў кірхі) адчынены**

**Цэны:** сьнеданьне—7 м., абеды з 2 х стравaў—10 м., вячэры з 2-х стравaў—11 м. **і порцыямі. Адпускаецца розная гарэлка.**

У часе абеду грае концэртны квартэт ад 1 да 4 гадз. і ўвечары ад $7^1/_2$ да 11 гадз.

---

**Успомніце мінуўшчыну!** **Усе як перад вайной**

Найстарэйшая кавярня **„Нэаполь“** ізноў адчынена ў падворку ў старым памяшканьні: Францішканская (Губэрнат. 10).

Сьнеданьні, абеды, вячэры і розные закускі па найтаньнейшай цане.

Паважаные кліенты, якіе заўсёды хадзілі ў свой стары сямейны „НЭАПОЛЬ“, маю надзею, што і далей будуць да нас хадзіць.

З пашанай **М. Найман.**

---

## Велікапольскі рэстаран

# „Бар Велікапольскі“

закускі халодные і гарачые, сьнеданьні, абеды і вячэры

Страва здаровая і смачная

**Бар адчынены ад 9 гадз. ран. да 11 увеч.**

Отэль Гарні, вул. Міцкевіча, рог. Фэліцыянскай № 36.


Купляйце адкрыткі з патрэтамі беларускіх пісьменьнікаў! Прадаюцца ў беларускай кнігарні (вул. Міцкевіча—Беларускі Дом) па **50** фэн. штука.


Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**Менск, вул. Міцкевіча, Беларускі Дом** (быўш. Юбілейны).

Рэдакцыя адчынена **ад 11 да 1.** Адміністрацыя—**ад 9 да 2 і ад 5 да 7 увеч.**

Цана абвестак: 2 маркі за радок пэтыту (толькі на 4-ай страніцы).

**ПРЭНУМЭРАТА КАШТУЕ (з дастаўкай да хаты): на адзін год—24 м., на 6 мес.—12 мар., на 3 мес.—6 мар.**

Рэдактар і выдавец **Францішак Аляхновіч.** Літэратурны кіраўнік **Зьмітрок Бядуля.**

З дазв. вайсков. цэнзуры 8/І 1920 г., за № 43. Менск. Друкарня Інвалідаў.